# НАВІНЫ



**Акадэміі навук Беларусі**

*Заснавана ў кастрычніку 1979 года* ● *№ 26(755)* ● *8 ліпеня 1994 г.* ● *Цана 60 руб.*


● ШТО? ● ДЗЕ? ● КАЛІ?

# Сорасаўскіх прафесараў стане больш

**Як мы паведамлялі ўжо (гл. «Навіны» № 23 і 24), першымі заслужанымі Сорасаўскімі прафесарамі сталі акадэмікі АНБ Д. М. Голуб і Ф. І. Фёдараў. Іх намінацыя з наступным уручэннем дыпломаў адбылася ў адпаведнасці з Міжнароднай Сорасаўскай праграмай адукацыі ў галіне дакладных навук (МСП АДН), па падпраграме, якая так і называецца «Заслужаныя Сорасаўскія прафесары».**

Аказваецца, каб стаць на 2 гады «проста» Сорасаўскім прафесарам, зусім не абавязкова мець за плячыма прынамсі 70 пражытых гадоў. У МСП АДН ёсць адпаведная падпраграма падтрымкі лепшых выкладчыкаў вышэйшай школы па дысцыплінах: фізіка і астраномія, хімія, біялогія, матэматыка, навукі аб Зямлі. І яшчэ адно адрозненне ад папярэдняй падпраграмы: дапускаецца самавылучэнне.

Фінансавая падтрымка Сорасаўскага прафесара будзе складацца з наступных сум (у доларах ЗША): персанальная падтрымка — 6.000 у год; асабісты фонд — 1.500 на два гады; аплата часовага тэхнічнага сакратара — 450 у год; фонд на апаратуру і рэактывы — 3.600 на два гады.

Кандыдат на званне Сорасаўскага прафесара павінен: 1. Мець званне прафесара і/ці ступень доктара навук. 2. Выкладаць у вну, чытаючы поўны курс лекцый студэнтам. 3. Мець вучняў — кандыдатаў навук або быць навуковым кансультантам дактарантаў, якія абаранілі доктарскія дысертацыі (усяго не меней 5 дысертантаў). 4. Мець прынамсі 5 навуковых публікацый з 1989 г., уключаючы артыкулы ў замежных часопісах, манаграфіі і падручнікі, а таксама артыкулы ў часопісах былога Саюза. 5. Мець гадавы даход, які не перавышае 7.500 долараў.

Сярод часопісаў, публікацыі ў якіх бяруцца пад увагу Міжнароднай Сорасаўскай праграмай, ёсць і тыя, што выдаюцца ў Беларусі: «Дифференциальные уравнения», «Доклады Академии наук Беларуси», «Весці Акадэміі навук Беларусі», «Оптика и спектроскопия».

У анкеце кандыдата на званне Сорасаўскага прафесара прадугледжаны пункты: агульны стаж педагагічнай дзейнасці, спіс асоб, якія абаранілі кандыдацкія дысертацыі пад яго кіраўніцтвам, спіс асноўных публікацый за апошнія 10 гадоў, прэміі (дзяржаўныя, міжнародныя і іншыя), узнагароды, гранты — атрыманыя і чакаемыя.

Вызначэнне лепшых прафесараў дакладных навук будзе праходзіць па наступнай працэдуры.

На першай стадыі кандыдаты альбо тыя, хто іх прадстаўляе, запаўняюць анкету. На другой стадыі студэнтам універсітэтаў і іншых вну, дзе працуюць кандыдаты на званне Сорасаўскага прафесара, будуць раздаваны анкеты з пытаннямі аб навуковай і выкладчыцкай дзейнасці іх выкладчыкаў. Вынікі студэнцкай ацэнкі выкладчыкаў будуць вельмі многа значыць пры адборы кандыдатаў. На апошняй стадыі будзе ўлічана дапаўняльная інфармацыя пра кандыдата: колькасць выдатных публікацый, індэкс цытуемасці, напісаныя ім дапаможнікі для вну і школ, манаграфіі і іншыя паказчыкі.

Спіс Сорасаўскіх прафесараў, ухвалены Саветам МСП АДН, будзе абвешчаны сп. Джорджам Сорасам 10 лістапада 1994 г. Фінансаванне пачнецца рэтраактыўна з 1 верасня 1994 г.

У заключэнне — прыемная нечаканасць: сп. Дж. Сорас выказаў намер прадоўжыць субсідзіраванне па МСП АДН яшчэ на тры гады, на працягу якіх будуць праведзены новыя раунды конкурсаў на тэрыторыі краін былога Саюза.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.

У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ



*Распрацоўка новых каталітычных метадаў сінтэзу азотутрымліваючых арганічных злучэнняў — амінас- і гетэрацыклаў з'яўляецца вядучым накірункам даследаванняў лабараторыі арганічнага каталізу Інстытута фізіка-арганічнай хіміі АНБ.*

*Вялікая ўвага да гэтага напрамку абумоўлена шырокім выкарыстаннем такіх злучэнняў у розных галінах народнай гаспадаркі: для атрымання хімвалокнаў, пластмас, стабілізатараў палімераў, антыстатыкаў, прысадак да паліва і маслаў, а таксама новых лекавых сродкаў і сродкаў аховы раслін.*

*НА ЗДЫМКУ: загадчык лабараторыі арганічнага каталізу ІФАХ АНБ доктар хімічных навук Міхалай Гельевіч КАЗЛОЎ.*

*Фота М. БУДЧАНІНА.*

Банк ідэй і прапаноў

# Як разарваць зачараванае кола?

Тыя, хто займаюцца навукай, ведаюць, якую масу часу ў даследчыка забірае пошук літаратуры і спецыялістаў па патрэбнай праблеме. Бывае, што не здолеўшы знайсці ўжо апублікаваны матэрыял, навуковец берацца сам «вынаходзіць веласіпед». А знаходжанне роднаснага па духу спецыяліста можа стаць сапраўдным адкрыццём — не меншым, чым выяўленне новых ведаў.

У сувязі з гэтым пажадана ўзяцца за падрыхтоўку даведніка «Інтэлектуальныя рэсурсы Беларусі» — з тым, каб пастаянна папаўняць яго і абнаўляць. Фарміраваць яго лепш на камп'ютэры, бо тады палягчаецца карэкціроўка даных, спрашчаецца друкаванне асобных масіваў інфармацыі па заказах спажыўцоў.

Дапусцім, мы паставілі мэту — стварыць даведнік па нейкай канкрэтнай навуцы. Па-першае, неабходны масіў публікацый. Па-другое, звесткі пра неапублікаваныя работы. Па-трэцяе, персаналія: генератары ідэй, распрацоўшчыкі, навуковыя папулярызатары. Па-чацвёртае, масіў даных аб спажыўцах інтэлектуальнай прадукцыі.

Такім чынам, мэта ёсць. Як яе дасягнуць? Аб'явіць аб перапісу інтэлектуальных рэсурсаў і тых, хто зацікаўлены ў выкарыстанні плёну іх працы? Але ў ідэі перапісу, побач з добрымі якасцямі, ёсць і недахопы. Напрыклад, відавочна, што такі перапіс будзе толькі разавым здымкам наяўнага стану з рэсурсамі. А сітуацыя ж мяняецца штодзённа. З'яўляюцца новыя ідэі, новыя лідэры, падводзяцца вынікі праведзеных работ. Гэта значыць, што патрэбен пастаянна дзейны орган, які б сачыў за рухам і зменамі ў інтэлектуальных рэсурсах Беларусі, фіксіраваў бы інтэлектуальная запатрабаванні.

І тут не тэхнічныя складанасці з'яўляюцца асноўнай перашкодай. Яны — у дэфармаванай структуры патрэб грамадства. Чалавек настолькі багаты інтэлектуальна, што вельмі шмат мог бы даць іншым людзям. Але ў грамадстве значна больш попыт на людзей нізкай кваліфікацыі, а вакансій для выкарыстання інтэлектуальных рэсурсаў — няма. Гэта вялікая трагедыя нашага грамадства, якая можа вырашыцца, калі самі інтэлектуальныя сілы накіраваць на яе вырашэнне. Стварыўшы даведнік «Інтэлектуальныя рэсурсы Беларусі», мы разарвем гэта зачараванае кола, падрыхтуем з'яўленне Рэспубліканскага банка ідэй і патрэбнасцей.

Леў ПАЛЫКОЎСКІ.
(г. Віцебск)

# ЯШЧЭ АДНО АКНО Ў ЕЎРОПУ

**29 чэрвеня ў Інстытуце фізікі АНБ дырэктар Еўрапейскага цэнтра навуковых даследаванняў (ЦЕРН) прафесар Вальтэр Хугланд прачытаў лекцыю, прысвечаную ЦЕРНу,— еўрапейскай міждзяржаўнай арганізацыі, якая налічвае ўжо 19 краін-удзельніц. В. Хугланд прыехаў у Мінск, каб падпісаць пагадненне паміж ЦЕРНам і ўрадам Рэспублікі Беларусь. Мэта пагаднення — забеспячэнне прававой асновы для прадаўжэння і далейшага развіцця навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва абодвух бакоў на ўзаемакарыснай аснове.**

**Наш карэспандэнт пасля лекцыі задаў госцю пытанне:**

**— Якія магчымасці ёсць у беларускіх фізікаў, што займаюцца элементарнымі часціцамі высокіх энергій, удзельнічаць у адпаведных праграмах ЦЕРНа? Ці ёсць у вас нейкія праграмы фінансавай падтрымкі вучоных?**

**Вось адказ навуковага дырэктара ЦЕРНа:**

**— Беларускія фізікі ўжо ўдзельнічаюць у ЦЕРНаўскіх праграмах, напрыклад, у Спін-Мюоннай Калабарацыі. Удзел у такіх праектах — частка пагаднення паміж многімі інстытутамі, што адкрывае магчымасці і для беларускіх даследчых груп, якія займаюцца стварэннем вузлоў дэтэктараў і падрыхтоўкай аналізу даных.**

**Мы аказваем вельмі абмежаваную фінансавую падтрымку «вонкавым» групам. Беларускія фізікі змогуць удзельнічаць у праграмах ЦЕРН, аднак мы мяркуем, што ЦЕРН не будзе мець да іх утрымання вялікага дачынення.**

**У праекце пагаднення, падрыхтаваным да подпісу, ёсць падбадзёрваючы радкі:**

**«ЦЕРН будзе разглядаць заяўкі ад вучоных Рэспублікі Беларусь аб назначэнні на пасады ў рамках праграмы «Навуковыя партнёры», прызначаная для грамадзян дзяржаў-нечленаў ЦЕРНа.**

**У некаторых выпадках ЦЕРН можа таксама прапанаваць аплату расходаў на праживанне працуючых у ЦЕРНе вучоных, інжынераў і тэхнічных спецыялістаў з Рэспублікі Беларусь.**

**Маладыя вучоныя і інжынеры з Рэспублікі Беларусь могуць таксама звяртацца з заяўкамі аб дазваленні наведваць школы ЦЕРНа, такія, як Школа па паскаральніках, Школа па вылічальных метадах, Еўрапейская школа па фізіцы».**

**Мяркуецца, што каардынацыю ўдзелу ўстаноў і арганізацый Беларусі ў даследчых праектах ЦЕРНа будзе ажыццяўляць навукова-вучэбны цэнтр фізікі часцінак і высокіх энергій пры БДУ.**

У. МІКАЛАЕЎ.

## 125, АЛЕ ПА-РАНЕЙШАМУ МАЛАДЫ

Часопіс «Nature», з матэрыялаў якога складаецца выходзячы з вясны мінулага года ў Расіі штомесячнік «Monthly nature», адзначыць 4 лістапада сваё 125-годдзе. Юбіляра будуць ушаноўваць не толькі ў Вялікабрытаніі, дзе нарадзіўся і выдаецца часопіс, але і ў многіх краінах свету: ён штотыднёва друкуецца таксама ў ЗША, Японіі і Кітаі — амаль 90 працэнтаў яго чытачоў жывуць за межамі Вялікабрытаніі.

# МАСТАЦТВА, ЯКОЕ ДАПАМАГАЛА ЖЫЦЬ І ЗМАГАЦЦА

Усім вядомы старажытны афарызм, што калі гавораць гарматы, то музы маўчаць. Але наша жыццё, наша гісторыя абверглі яго. Яго абверглі, тэарэтычна і практычна, у часы вайны беларускія творцы. Хаця дзеля справядлівасці і аб'ектыўнасці трэба зазначыць, што ў гады другой сусветнай вайны не зусім змоўклі музы і многіх іншых народаў еўрапейскіх краін, якія захапіла фашысцкая Германія. Аднак неаспрэчным фактам з'яўляецца і тое, што беларускае мастацтва ў надзвычайных умовах ваеннага часу, умовах трохгадовай акупацыі і татальнага генацыду здолела не толькі захаваць свой асноўны патэнцыял, але і ў пэўнай ступені развіць яго, узбагаціць новымі творчымі здабыткамі. Але, падкрэслю, вайна і мастацтва — рэчы ў прынцыпе не сумяшчальныя. Ды XX стагоддзе прынесла чалавецтву столькі нечаканых з'яў, падзей, адкрыццяў, што, здавалася б, ужо няма чаму здзіўляцца... Не, ёсць чаму, і адна з такіх фенаменальных з'яў — менавіта беларускае мастацтва ў гады Вялікай Айчыннай вайны; мастацтва, якое сваімі сродкамі і прыёмамі дапамагала людзям жыць і змагацца з ворагам.

Таму адразу ўзнікае пытанне: у чым прычына такой выдатнай з'явы? Адна з галоўных у тым, што ў адрозненне ад іншых еўрапейскіх народаў, для якіх мінулая вайна была толькі другой сусветнай, для нашага народа 22 чэрвеня 1941 года распачалася вайна Айчынная. І беларускія творцы гэта адразу ўсвядомілі.

Напрыклад, ні адна з нацыянальных еўрапейскіх кінематаграфій не ведае столькі прыкладаў грамадзянскага подзвігу, які здзейснілі беларускія франтавыя і партызанскія кінааператары. І. Вейнеровіч, М. Бераў, У. Цяслюк і іншыя, якія, штодзённа рызыкуючы жыццём, стварылі дакументальны кіналетапіс барацьбы савецкіх людзей супраць акупантаў. Яны яшчэ ў час вайны былі па справядлівасці адзначаны і Дзяржаўнымі прэміямі, і баявымі ардэнамі. Але галоўная ўзнагарода для іх — людская памяць, удзячнасць многіх пакаленняў нашых суайчыннікаў. Удзячнасць за тое, што іх дакументальныя стужкі захавалі твары салдат і партызан, твары сялянскіх жанчын, тых самых, простых і адначасова святых беларускіх жанчын-пакутніц, на якіх трымаўся ды і сёння трымаецца наш беларускі свет...

У час вайны былі створаны адпаведныя ўмовы і для творчай працы вядучых майстроў ігравога кінематографа. Так, ужо ў 1942 годзе, у Алма-Аце, куды эвакуіраваліся беларускія кінематаграфісты, рэжысёры Ю. Тарыч і У. Корш-Саблін стварылі першы мастацкі фільм пра вайну — «Беларускі кіназборнік», які складаўся з дзвюх самастойных навел. Адну з галоўных роляў героя-танкіста выканаў выдатны савецкі кінаартыст П. Алейнікаў.

Але самыя важкія здабыткі беларускага кіно ваеннага часу — шматлікія дакументальныя стужкі, сярод якіх безумоўную гістарычную і мастацкую каштоўнасць мае паўнаметражны дакументальны фільм М. Садковіча і У. Корш-Сабліна «Вызваленне Савецкай Беларусі», створаны ў 1944 г.

Актыўна і плённа працавалі ў час вайны і многія беларускія майстры выяўленчага мастацтва. Натуральна, патрабаванні ваеннага часу ўнеслі свае істотныя карэктывы ў развіццё асобных відаў і жанраў, іх прыярытэты. Так, на першы план выйшлі агітацыйныя формы мастацтва: плакат, карыкатура, малюнак, баявы лісток. Асабліва актыўна і вынікова працуе ў час вайны палітычная і сатырычная графіка. Напрыклад, 1-ы нумар сатырычнага выдання пад назвай «Раздавім фашысцкую гадзіну» выйшаў у Гомелі ўжо ў ліпені 41-га. У яго выпуску ўдзельнічалі вядомыя мастакі — З. Азгур, Б. Звінягродскі, а пазней у ім удзельнічалі І. Ахрэмчык, А. Волкаў, М. Гурло і многія іншыя майстры. Адначасова выпускаецца і карыстаецца поспехам сатырычны лісток «Партызанская дубінка». Безумоўную гістарычную і мастацкую каштоўнасць маюць шматлікія серыі франтавых малюнкаў, выкананыя з натуры. У партызанскіх атрадах арганізоўваліся выставы работ мастакоў-партызан, у прыватнасці, Л. Бойкі, М. Гуціева, П. Гаўрыленкі... Іх работы маюць рэпартажна-дакументальны характар і ў гэтым іх непераходзячае значэнне.

Асабліва актыўна працаваў у час вайны Заір Азгур, які стварыў шэраг выдатных скульптурных партрэтаў герояў партызанскага руху. Выразнасцю формы, глыбінёю індывідуальных характарыстык вылучаліся таксама работы іншых вядомых скульптараў — А. Бембеля, А. Грубе і інш.

У 1944 г. у Маскве ў залах Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі была арганізавана выстава твораў беларускіх мастакоў, створаных у ваенныя гады. Выстава мела вялікі поспех.

Відавочна адно — абсалютная большасць беларускіх мастакоў не засталася ў баку ад усенароднай барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў. Лепшыя творы выяўленчага мастацтва, створаныя ў розных відах і жанрах, трывала ўвайшлі ў скарбонку нацыянальнай мастацкай культуры Беларусі.

У час вайны вельмі актыўна працавала і развівалася музычнае мастацтва, асабліва ў песенным жанры. Не было ні аднаго партызанскага атрада, у якім не спявалі б баявых песен, не складвалі частушкі і прыпеўкі.

У песеннай творчасці часоў вайны фарміруюцца два галоўныя напрамкі. Адзін напрамак — гэта ўласныя песні беларускіх партызан, другі напрамак — творы прафесіянальных кампазітараў, напісаныя ў савецкім тыле. Асаблівай папулярнасцю і любоўю партызан карысталіся песні кампазітараў А. Багатырова, І. Любана, Р. Пукста, Я. Цікоцкага, М. Аладава, М. Сакалоўскага. Значную ролю ў распаўсюджванні песен беларускіх кампазітараў адыграла эстрадная брыгада Белдзяржфілармоніі. Іх першы канцэрт адбыўся ў ліпені 1941 года, а ўсяго брыгада за час вайны дала больш за 2500 канцэртаў на фронце і ў партызанскіх атрадах.

Вядучыя беларускія кампазітары працавалі і ў іншых жанрах.

Красамоўным з'яўляецца і той факт, што ў віхуры ваеннага ліхалецця не загінула тэатральнае мастацтва.

Кіраўнікі тагачаснага беларускага ўрада зрабілі ўсё магчымае для захавання вядучых нацыянальных тэатраў. Першы і Другі беларускія тэатры, Тэатр оперы і балета былі тэрмінова эвакуіраваны ў глыбокі тыл Савецкага Саюза.

Апынуўшыся ў эвакуацыі, тэатры распачалі творчую дзейнасць у новых умовах. Рэпертуарныя накірункі, натуральна, вызначаліся галоўнай задачай ваеннага часу — мацаваць савецкі патрыятызм, натхняць людзей на барацьбу з ворагам. Да гонару беларускіх майстроў сцэны — рабілі яны сваю пачэсную справу высокапрафесійна, а асобныя спектаклі ваеннага часу сталі каштоўным здабыткам усёй мастацкай культуры Беларусі.

У час вайны крыніца беларускага прафесійнага і народнага мастацтва не перасохла: беларускае мастацтва было разам са сваім народам, яно дапамагала людзям бараніць свой родны край.

Задач у вучонага шмат. Але галоўная заключаецца ў пошуку ісціны. Шукаць яе вельмі і вельмі цяжка, складана. А бывае, што і небяспечна... Ясна адно: нашы веды аб мастацтве часоў Вялікай Айчыннай вайны будуць не поўнымі без уяўлення пра творчую дзейнасць беларускіх пісьменнікаў, артыстаў, рэжысёраў, кампазітараў, мастакоў і іншых творцаў на акупіраванай тэрыторыі.

Вядома, сярод іх былі розныя людзі: і тыя, хто свядома пайшоў на супрацоўніцтва з акупантамі, суцяшаючы сябе ілюзіямі наконт свабоднай, незалежнай Беларусі; і тыя, хто вымушаны быў рознымі жыццёвымі абставінамі — за кавалак хлеба, за жыццё сваіх блізкіх і родных і г. д.

Славуты прынцып: хто не з намі, той супраць нас, мне здаецца, не самы дасканалы. У рэальным жыцці, а значыць і рэальнай гісторыі народаў і іх культур — колераў і адценняў намнога больш.

Цяжка, вельмі цяжка шукаць ісціну — і ў сучаснай рэчаіснасці, і ў мінулай. Хаця, па вялікаму рахунку, адну ісціну мы добра ведаем: савецкі народ, у тым ліку і беларусы, атрымалі ў 1945 годзе Перамогу над фашызмам, які неўзабаве быў асуджаны сусветным супольніцтвам за злачынствы супраць чалавецтва.

Пэўная заслуга ў гэтай перамозе належыць і дзеячам беларускага мастацтва — пісьменнікам, артыстам, кампазітарам, мастакам, кінематаграфістам, іншым творцам, якія ў цяжкую гадзіну вайны аказаліся разам з народам.

Р. СМОЛЬСКІ,
доктар мастацтвазнаўства.

# БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ

(Заканчэнне. Пачатак у № 25)

Рух падпольшчыкаў шырыўся на ўсёй акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Ужо ў 1942 г. у Віцебску дзейнічала 56 падпольных груп. Адной з іх кіравала В. З. Харужая. Шырока вядомы подзвіг К. С. Заслонава — падпольшчыка з Оршы, затым партызанскага камандзіра. Сотні падпольшчыкаў гераічна змагаліся з ворагам у Гомелі, Магілёве на станцыі Обаль, у Скідзелі, Шчучыне, іншых населеных пунктах. Агульны іх лік дасягаў 70 тыс. чалавек.

Нельга не адзначыць унікальную дыверсійную аперацыю, якая была праведзена на Асіповіцкім чыгуначным вузле ў ноч на 30 ліпеня 1943 г. Камсамолец Ф. Крыловіч падклаў дзве міны пад эшалон з палівам, які павінен быў адправіцца на Гомель. Аднак на гэтым напрамку палатно ўзарвалі партызаны і эшалон накіравалі ў месца, дзе знаходзіліся іншыя цягнікі, гружаныя тэхнікай і боепрыпасамі. У выніку выбуху амаль дзесяць гадзін бушаваў пажар, які суправаджаўся моцнымі выбухамі. Быў знішчаны эшалон з танкамі «тыгр», 63 вагоны са снарадамі, авіябомбамі, мінамі, 31 цыстэрна з палівам. Гэта — адна з буйнейшых дыверсійных аперацый другой сусветнай вайны.

Бясспрэчна, што арганізатарамі партызанскай і падпольнай барацьбы на Беларусі, як і ў іншых месцах Савецкага Саюза, былі камуністы і камсамольцы. Стварэнне разгалінаванай сеткі партыйных і камсамольскіх органаў, іх актыўная дзейнасць з'явіліся важным фактарам зараджэння і актывізацыі барацьбы. Красамоўны і той факт, што за тры гады гітлераўскай акупацыі Беларусі ў кампартыю тут уступіла 12,5 тыс. чалавек розных нацыянальнасцей. Барацьба з ворагам на акупіраванай тэрыторыі, як і на фронце, мела інтэрнацыянальны характар.

Аднак наша ўяўленне аб гісторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны было б няпоўным, калі б мы па-ранейшаму, як гэта рабілася на працягу пасляваеннага часу, амаль нічога не сказалі пра тых, хто супрацоўнічаў з гітлераўцамі. Калабарацкі рух меў на акупіраванай тэрыторыі сваё праяўленне. Гэтаму садзейнічала не толькі палітыка заігрывання фашысцкага кіраўніцтва на Беларусі з некаторымі мясцовымі сіламі, але і шырокія сталінскія рэпрэсіі ў перадваенны час, шэраг іншых фактараў. Таму ў цяперашніх умовах гісторыкі звяртаюць увагу на тыя арганізацыі і фарміраванні, што былі створаны пры падтрымцы фашыстаў на акупіраванай тэрыторыі. Гэта і «Беларуская народная самапомач», і «Беларуская самаахова», і «Саюз беларускай моладзі». На заключным этапе акупацыі з'явіліся «Беларуская цэнтральная рада» і «Беларуская краёвая абарона». Аднак спадзяванняў гітлераўцаў і іх мясцовых памагатых гэтыя арганізацыі не апраўдалі.

Складанай з'явай стала ўтварэнне і дзейнасць Арміі Краёвай, якая базіравалася на тэрыторыі заходняй Беларусі. У некаторых месцах яе сілы былі значнымі. Толькі ў Наваградскай акрузе чатыры злучэнні АК налічвалі вясной 1944 г. да 7 тыс. чалавек. Армія Краёва падпарадкоўвалася польскаму эмігранцкаму ўраду ў Лондане і ставіла сваёй мэтай адраджэнне Польшчы ў граніцах да верасня 1939 г. Пасля разрыву ў красавіку 1943 г. савецкім кіраўніцтвам адносін з гэтым польскім урадам, абвастрыліся ўзаемаадносіны АК з партызанамі, а фашысты сталі выкарыстоўваць некаторыя яе злучэнні для барацьбы з партызанскім рухам.

Аднак прыцягненне гітлераўскім кіраўніцтвам на свой бок некаторых мясцовых сіл на Беларусі і іншых захопленых тэрыторыях не магло палепшыць стратэгічнае становішча фашысцкага рэйху. Карэнны пералом ў вайне, пачаты пад Сталінградам, быў канчаткова замацаваны ў бітве на Курскай дузе летам 1943 г. Гэтая перамога перарасла ў стратэгічнае наступленне Чырвонай Арміі, у выніку якога пачалося вызваленне нашай Бацькаўшчыны. 22 верасня быў вызвалены першы раённы цэнтр Беларусі — Камарын, а 26 лістапада савецкія войскі ўступілі ў Гомель. Сюды адразу ж пераехалі ЦК КП(б)Б, урад Беларусі і БШПР.

У вызваленні Беларусі ўдзельнічала першая польская пяхотная дывізія імя Т. Касцюшкі пад камандаваннем палкоўніка З. Берлінга. Яна была сфарміравана на тэрыторыі СССР, а баявое хрышчэнне атрымала 12 кастрычніка 1943 г. пад мястэчкам Леніна, што каля Горак. Аднак шлях да вызвалення быў доўгім і цяжкім. На беларускім напрамку гітлераўцы сканцэнтравалі да 70 дывізій. Зімою 1943—1944 г. працягвалася вызваленне ўсходніх раёнаў Беларусі і ствараліся ўмовы для шырокай наступальнай аперацыі. У канцы мая 1944 г. Стаўкай Вярхоўнага Галоўнакамандавання, якую ўзначальваў І. В. Сталін, быў зацверджаны план наступальнай аперацыі пад назвай «Баграціён». Яна ажыццяўлялася сіламі чатырох франтоў: 1-га, 2-га і 3-га Беларускіх (камандуючыя — генералы К. К. Ракасоўскі, Г. Ф. Захараў, І. Д. Чарняхоўскі) і 1-га Прыбалтыйскага (камандуючы — генерал І. Х. Баграмян). Да аперацыі прыцягваліся 1-я армія Войска Польскага, Дняпроўская ваенная флатылія. Значная роля адводзілася дзеянням беларускіх партызан. У выніку вялікай падрыхтоўчай работы перавага ў асабовым складзе і ўзбраеннях была на баку Чырвонай Арміі.

Раніцай 23 чэрвеня 1944 г. пасля магутнай авіяцыйнай і артылерыйскай падрыхтоўкі пачалося наступленне савецкіх войск на магілёўскім, аршанскім і віцебскім напрамках. Маршалы Савецкага Саюза Г. К. Жукаў і А. М. Васілеўскі, як прадстаўнікі Стаўкі, каардынавалі дзеянні франтоў. За час трэцяга этапу «рэйкавай вайны» фашысцкія камунікацыі былі дэзарганізаваны. Аднавіць рух на многіх чыгуначных магістралях вораг так і не змог. У выніку імклівага наступлення былі акружаны і ліквідаваны віцебская, аршанская, бабруйская групоўкі ворага агульнай колькасцю звыш 100 тыс. чалавек. 1 ліпеня быў вызвалены Барысаў і адкрыты шлях на Мінск. 2-га ліпеня ў раён Астрашыцкага гарадка выйшлі злучэнні 5-й гвардзейскай танкавай арміі маршала танкавых войск П. А. Ротмістрава. Яны завязалі бой на паўночна-усходняй ускраіне Мінска. Другі гвардзейскі танкавы корпус генерала А. С. Бурдзейнага ўварваўся ў горад з усходу. Паспяхова наступалі танкісты іншых злучэнняў. Разам з імі ў горад уварваліся пяхотныя часці. У «мінскім катле», што на ўсход ад горада, апынулася 105-тысячная групоўка ворага. Яна была разгромлена; значная частка гітлераўцаў захоплена ў палон. 3-га ліпеня ў другой палове дня сталіца Беларусі была поўнасцю вызвалена ад ворага. 16-га ліпеня савецкія войскі ўступілі ў Гродна, 23 — у Брэст.

Завяршылася выгнанне з беларускай зямлі нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Рашаючую ролю ў гэтым адыграла Савецкая Армія.

Вельмі дарагая цана заплачана беларускім народам за перыяд трохгадовай фашысцкай акупацыі і за час франтавых баёў. Рэспубліка страціла больш за 2,2 мільёна чалавек. Было разбурана 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9200 вёсак. Матэрыяльны ўрон дасягнуў 75 млрд. руб. (у цэнах 1941 г.), што раўнялася 35 рэспубліканскім бюджэтам 1940 г.

Самаадданай, напружанай працай, з дапамогай усіх рэспублік СССР, беларускі народ да канца 40-х — пачатку 50-х гадоў аднавіў гаспадарку і ў наступныя дзесяцігоддзі дабіўся значных поспехаў у развіцці прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, навукі і культуры, сацыяльным забеспячэнні насельніцтва. Аднак у час радыкальных пераўтварэнняў Беларусь аказалася ў глыбокім крызісе.

У складаных умовах мы адзначаем наш вялікі юбілей — 50-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але беларускі народ аддае належнае сваім вызваліцелям, выказвае глыбокую ўдзячнасць воінам Савецкай Арміі, партызанам і падпольшчыкам, работнікам тылу. Тое, што вы, дарагія ветэраны, здзейснілі ў гады вайны — гэта працяг шматвекавой барацьбы за незалежнасць, якую вялі нашы блізкія і далёкія продкі. Ваш неўміручы подзвіг займае і будзе займаць пачэснае месца ў гістарычнай свядомасці народа.

М. КАСЦЮК,
дырэктар Інстытута гісторыі АНБ.

**ДА 200 УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ**

# КАНСТЫТУЦЫЯ 3 МАЯ І ПАЎСТАННЕ КАСЦЮШКІ

Рэвалюцыйныя падзеі, што адбыліся ў Рэчы Паспалітай напрыканцы XVIII стагоддзя, аказалі значны ўплыў на лёс многіх еўрапейскіх народаў. Пачатак гэтым падзеям паклалі заканадаўчыя акты так званага Чатырохгадовага сейма, якім была ўхвалена «Устава жондова», атрымаўшая назву Канстытуцыі 3-га мая 1791 года. Трэба сказаць, што названая канстытуцыя зыходзіла з рэальных палітычных і эканамічных суадносін, ставіла перад грамадствам задачы пабудовы адносна дэмакратычнай дзяржавы на аснове кампрамісу паміж прагрэсіўнай шляхтай і буржуазіяй з аднаго боку і феадаламі-прыгоннікамі з другога.

Але ў гэтым кампрамісе была і яе слабасць. Найбольш радыкальныя дзеячы лічылі канстытуцыю недастаткова прагрэсіўнай. Напрыклад, у 1793 годзе Тадэвуш Касцюшка пісаў, што ў першую чаргу неабходна ліквідаваць прыгонную залежнасць сялян, абвясціць свабоду і роўныя правы для ўсіх, спыніць засілле вярхоў каталіцкага духавенства, адмяніць каралеўскую ўладу. Рэакцыйныя колы, наадварот, палічылі «Уставу жондову» рэвалюцыйнай змовай, у сувязі з чым папрасілі дапамогі ў расійскай імператрыцы Кацярыны II, каб яе войскамі задушыць рэвалюцыю ў Рэчы Паспалітай.

Але вернемся крыху назад. У другой палове XVIII ст. у Рэчы Паспалітай разгарнулася палітычная барацьба паміж прыхільнікамі рэформаў дзяржаўнага ладу і рэакцыйнымі коламі каталіцкага духавенства і магнатаў. Яна яшчэ больш абвастрылася, калі на каралеўскі прастол узышоў ураджэнец Беларусі Станіслаў Панятоўскі, якому пры каранацыі далі імя Аўгуста.

Рыхтуючы рэформы дзяржаўнага ладу Рэчы Распалітай, палітычныя дзеячы найперш звярнулі ўвагу на канстытуцыйнае права, замацаванае ў Статуце 1588 года. Аб гэтым сведчыць выступленне караля Станіслава Аўгуста ў сейме 11 верасня 1776 года, дзе ён гаварыў, што Статут 1588 г. заслугоўвае самага справядлівага паважання, бо ім шчаслiва і разумна карыстаюцца да гэтага часу грамадзяне Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), і многія ваяводствы Польшчы жадаюць, каб і для іх ён стаў правам. У дадатак кароль пажадаў «каб у Кароне пайшлі да такога шчасця, якім ганарыцца Літва».

Праз увесь Статут праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы павінны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Ідэя прававога парадку была накіравана перш за ўсё супраць дэспатызму буйных феадалаў і сярэдневяковай тэакратычнай тэорыі паходжання і сутнасці дзяржавы. Абвяшчэнне гэтай ідэі сведчыла пра зараджэнне новай дзяржаўнай тэорыі, якая адпавядала патрэбам узнікаючага буржуазнага грамадства і атрымала ўвасабленне ў Канстытуцыі 3-га мая 1791 г. і прынятых у гэтым жа годзе законах.

Канстытуцыя 3-га мая складалася з прэамбулы і 11 раздзелаў. У прэамбуле ад імя караля Станіслава Аўгуста гаварылася, што, улічваючы застарэлыя падыходы ў кіраванні Рэччу Паспалітай, імкнучыся дасягнуць знешняй незалежнасці і ўнутранай свабоды народа, для агульнага дабрабыту і захавання дзяржавы з яе межамі, зацвярджаецца гэтая Канстытуцыя.

Першы раздзел Канстытуцыі абвяшчае «святую рымскую каталіцкую» рэлігію пануючай у дзяржаве. Пераход з каталіцкай веры ў іншыя забараняўся, аднак для гэтых рэлігій гарантавалася свабода выканання рэлігійных абрадаў.

У другім раздзеле пацвярджаліся ўсе правы і прывілеі, дадзеныя шляхце — як Польшчы, так і ВКЛ. Менавіта шляхта, якая прызнавалася роўнай між сабою, служыла найпершым абаронцам свабоды і дадзенай Канстытуцыі. Трэцім раздзелам быў закон аб гарадах.

Чацвёрты раздзел змяшчаў новыя нормы ў адносінах да сялян.

Прагрэсіўнае палажэнне аб тым, што «усялякая ўлада ў чалавечым грамадстве бярэ свой пачатак з волі народа» і павінна складацца «з трох уладаў, г. зн. заканадаўчай, выканаўчай і судовай», замацавана ў пятым раздзеле.

Далей вызначалася структура і паўнамоцтвы сейма, які складаўся з дзвюх палат: дэпутатаў (паслоў) і сенатараў (на чале з каралём). Першая палата абвяшчалася святыняй заканадаўства. У другую ўваходзілі каталіцкія епіскапы, ваяводы, каштэляны і некаторыя іншыя высокапастаўленыя асобы. Сенат мог ухваліць закон, прыняты дэпутатамі, альбо адкласці яго да наступнага пасяджэння сейма. Устанаўлівалася, што Канстытуцыя падлягае перагляду толькі праз 25 гадоў.

Стварэнне адзінага ўрада для ўсёй Рэчы Паспалітай павінна было змяніць характар дзяржаўнай будовы, ператвараючы канфедэратыўны лад у федэрацыю, садзейнічаць цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацаванню аўтарытэта галоўных органаў улады, абмежаванню ўсемагутнасці буйных феадалаў.

Канстытуцыя 3-га мая, прынятая ў вострай палітычнай барацьбе, захоўвала феадальна-прыгонніцкі лад і адначасова стварала больш выгадныя ўмовы для развіцця мануфактурнай вытворчасці і гандлю. Для свайго часу яна мела прагрэсіўнае значэнне, аднак яе палажэнні не былі цалкам ажыццёўлены з-за бунту рэакцыйных колаў, якія вясной 1792 г. у горадзе Тарговіца абвясцілі вайну свайму ўраду і запрасілі замежныя дзяржавы ўвесці свае войскі.

Царскі ўрад Расіі 18 мая 1792 года накіраваў 100-тысячную армію ім на дапамогу, што хутка прывяло да перамогі таргавічан.

Выклікаўшы ваенны разгром Рэчы Паспалітай, таргавічане садзейнічалі і яе другому падзелу, бо ў студзені 1793 г. Прусія дамовілася з Расіяй аб адарванні ад Рэчы Паспалітай пэўных тэрыторый. Да Расіі адышлі частка Беларусі (з гарадамі Менск, Барысаў, Слуцк, Пінск, Мазыр) і шэраг раёнаў Заходняй Украіны. А да Прусіі — спрадвечна польскія землі з гарадамі Торунь, Гданьск, Познань.

Сейм Рэчы Паспалітай, які сабраўся 17 чэрвеня 1793 года ў Гародне, прызнаў гэты падзел. На ім таксама было аб'яўлена аб роспуску тарговіцкай канфедэрацыі і стварэнні гародзенскай канфедэрацыі. Тады ж адмянілі і Канстытуцыю 3-га мая 1791 года, замяніўшы яе новай.

Згодна з Гародзенскай Канстытуцыяй 1793 г., Вялікае княства Літоўскае захоўвала сваю дзяржаўную самастойнасць з усімі яе атрыбутамі. Па Канстытуцыі аднаўлялася Неадменная рада, якая ўтваралася з прадстаўнікоў Польшчы і ВКЛ на парытэтнай аснове. Але і гэтая Канстытуцыя не была ўведзена ў дзеянне, бо ўжо вясной 1794 года пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, і Вялікае княства Літоўскае на пэўны час захавала свае суверэнныя правы.

Я. ЮХО.

# КОНКУРС РЫЦАРАЎ ПРЫРОДЫ

У Беларусі ўпершыню быў праведзены конкурс на лепшыя навукова-папулярныя творы па экалогіі. Наладзілі яго Мінскі гарадскі савет па экалогіі і Мінскае гарадское аддзяленне Беларускага экалагічнага саюза.

Мэта конкурсу — зрабіць вынікі, абагульніць вопыт і стымуляваць далей творчасць беларускіх вучоных, літаратараў і журналістаў па экалагічнай адукацыі і выхаванню насельніцтва. Прымаліся матэрыялы, апублікаваныя ў 1992—1993 г.

Па групе твораў, прысвечаных асобным напрамкам экалогіі і канкрэтным яе праблемам, усе тры першыя месцы дасталіся прадстаўнікам Акадэміі навук Беларусі: Э. Р. Самусенку (Інстытут заалогіі) за два выданні кнігі «Друзья нашего дома», што выйшлі стотысячным тыражом абодва; дактарам геолага-мінералагічных навук, прафесарам А. В. Кудзельскаму і Э. А. Ляўкову (Інстытут геалагічных навук) за кнігі «Вода жизни нашей» і «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны», адпаведна.

У групе спецыяльных літаратурных твораў усе тры месцы занялі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі: В. І. Стома («Гаспадар таямнічых вятроў»), В. В. Лапцік («Мой сум, Нарочча») і Дз. А. Бяспалы («С полным лукошком»).

Па групе твораў, прысвечаных агульным праблемам экалогіі, першае месца заняў кандыдат біялагічных навук А. І. Лучкоў (Інстытут эксперыментальнай батанікі) за кнігу «Прырода Беларусі». Другое месца дасталася намесніку міністра экалогіі Рэспублікі Беларусь В. І. Алешку (дакументальная аповесць «Орк» і цыкл публікацый аб запаведных тэрыторыях). Трэцяе месца заняла прафесар Н. М. Кручкова (БДУ) з саўтарамі «Экологического словаря».

Граматы і дыпломы за асобныя творы атрымалі: прафесар В. Н. Кісялёў (БДУ) за кнігу «Неўміручая песня лясоў», прафесар Б. П. Савіцкі і В. Я. Сідаровіч (Камісія па экалогіі Вярхоўнага Савета і Інстытут заалогіі, адпаведна) за кнігу «Выдра ў Беларусі», дактары навук А. І. Мікуліч і І. С. Гусева (Інстытут этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору), а таксама Я. М. Толсцікава (МП «Рэкс») за кнігу «Еще раз о кошке».

Дыпломы і граматы за творы аб экалогіі для юнацтва прысуджаны супрацоўнікам Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра навучэнцаў Л. П. Каліноўскай і Л. С. Чумакову.

Сярод перыядычных выданняў першае месца аддадзена газеце «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі», другое — газеце «Раніца» (да 1992 г.— «Піянер Беларусі»).

За цыклы газетных і часопісных публікацый адзначаны: інжынер В. М. Дубіловіч, паляўніцтвазнавец В. І. Ярашчук, кандыдат біялагічных навук А. М. Курскоў (Інстытут заалогіі) і журналістка В. А. Палякова (газета «Чырвоная змена»).

Праца рэдакцыі прыродаведання выдавецтва «Навука і тэхніка» (загадчык М. Дз. Гесь) ацэнена як выдатная. Гэта выдавецтва аказалася асабліва актыўным папулярызатарам экалагічных ведаў сярод дзесяткаў роднасных устаноў Мінска. Другога і трэцяга месцаў для выдавецтваў журы не прысудзіла.

У канцы мая ў Мінскім гарсавеце адбылося ўрачыстае пасяджэнне, на якім старшыня гарсавета А. М. Герасіменка ўручыў узнагароды пераможцам.

Прайшоўшы конкурс выклікае шэраг пытанняў. Чаму з некалькіх дзесяткаў акадэмічных і ведамасных інстытутаў, а таксама вну, у конкурсе ўдзельнічала толькі пяць? Чаму забыліся аб традыцыях аховы прыроды ў інстытутах гісторыі і літаратуры? Чаму не займаюцца экалагічнай прапагандай у Інстытуце рацыянальнага выкарыстання і аховы прыродных рэсурсаў і экалогіі? Чаму выдатная кніга В. В. Лапціка аб жамчужыне Беларусі — возеры Нарач — выдадзена «Мастацкай літаратурай» мізэрным тыражом (1400 экземпляраў)?

Пытанняў па экалагічнай прапагандзе вельмі шмат. У школах і вну яна вывучаецца на гранічна недастатковым узроўні, часам на працягу толькі некалькіх гадзін, факультатыўна. Так што адзін з надзейных шляхоў павышэння нашай экалагічнай пісьменнасці — навукова-папулярная літаратура.

Эдуард САМУСЕНКА,
старшыня аргкамітэта экалагічнага конкурсу.

# НЕВЯДОМЫ ГУЛаг

*— Тэма гэта для нас новая, і выйшлі мы на яе выпадкова,— сказаў супрацоўнік Інстытута гісторыі, доктар гістарычных навук прафесар Сяргей Букін карэспандэнту газеты «Навука ў Сібіры», які запісаў яго расказ.*

У Інстытуце гісторыі маецца вялікая праграма «Немцы ў Сібіры», і, працуючы ў архівах НКУС у рамках гэтай праграмы, супрацоўнікі інстытута знайшлі шэраг цікавых дакументаў, якія ў гэту праграму не ўпісваліся. Гэтыя дакументы — таксама аб «Архіпелагу ГУЛагу», але не аб тым, які вядомы нам па творах Аляксандра Салжаніцына, Варлама Шаламава і некаторых іншых аўтараў. Хаця гэты другі, невядомы нам ГУЛаг, па колькасці свайго насельніцтва амаль не ўступаў першаму...

Гаворка ідзе аб лагерах для ваеннапалонных. Усяго ў былым СССР мелася 2454 такіх лагеры, праз якія прайшлі 3,5 мільёна чалавек. Прыкладна 1,2 мільёна з іх засталіся тут навечна. Прычым, гэтыя лічбы адносяцца толькі да палонных з армій вермахта. Плюс да гэтага праз сібірскія лагеры прайшло каля 700 тысяч японцаў — былых салдат і афіцэраў Квантунскай арміі.

Так што зараз перад Інстытутам гісторыі стаіць упаўне вызначаная навуковая задача — расказаць аб тым, што было да гэтай пары невядома ні нашым, ні замежным чытачам. Усе дакументы, якія датычацца ваеннапалонных, да самага нядаўняга часу захоўваліся пад грыфам «Зусім сакрэтна», пастаўленым яшчэ НКУС. Дарэчы, у нас, у Новасібірску, гэтыя матэрыялы дасюль знаходзяцца ў ведамасным архіве абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў МУС, і вельмі сімвалічна, што архіў гэты размешчаны ў змрочных падвалах былой турмы НКУС. Тут, за тоўстымі дзвярыма з вочкамі, у камерах замест вязняў на нарах сёння можна ўбачыць таўшчэзныя, пакрытыя пылам папкі з дакументамі. Гэта пратаколы пасяджэнняў «троек», расстрэльныя спісы, матэрыялы аб калмыках і немцах Паволжжа, выселеных у Сібір. Сярод іх — паперы аб ваеннапалонных, якія маюць не толькі рэгіянальнае значэнне. З аднаго боку — гэта дакументы лагера ваеннапалонных № 199, які размяшчаўся у Новасібірску, а з другога — гэта «творы» цэнтральных органаў НКУС, інструкцыі, якія накіроўваліся на месцы, падпісаныя Берыям і яго намеснікамі Кругловым і Сяровым.

Што датычыцца самога становішча ваеннапалонных у Сібіры — хаця, магчыма, гэта здасца сенсацыйным, але гістарычныя крыніцы пераконваюць у тым, што ў перыяд вайны і пасляваенныя гады яно адпавядала нормам міжнароднага права. А гібель больш чым мільёна людзей тлумачыцца, у асноўным, доўгім шляхам у савецкі тыл і цяжкімі ўмовамі ў перыяд падрыхтоўкі лагераў. Сам жа лагерны распарадак дня быў накіраваны на тое, каб жыццё ваеннапалонных захаваць. Так, рабочы дзень у ваеннапалонных, згодна з інструкцыямі, не мог перавышаць 8 гадзін, тады як нават непаўналетнія ў сібірскіх цэхах працавалі значна болей. Нормы забеспячэння, устаноўленыя НКУС, былі вышэй, чым у большасці сібірскіх рабочых. Ваеннапалонныя мелі права штомесячна адсылаць дадому пісьмы і атрымліваць пасылкі.

Узнікае ўпаўне натуральнае пытанне — чым жа вытлумачваюцца такія гуманныя адносіны да палонных? Аб сапраўдным гуманізме, вядома, гаварыць не даводзіцца — вядома мноства выпадкаў масавага знішчэння як грамадзян СССР, так і іншых дзяржаў. Напрыклад, славутая трагедыя ў Катынскім лесе, дзе ў 1940 годзе было расстраляна некалькі тысяч былых польскіх ваеннаслужачых . Падлягае сумненню і тое, што такім чынам сталінскае кіраўніцтва мела намер аблегчыць лёс чырвонаармейцаў, трапіўшых у нямецкі палон. Усе яны, у сутнасці, аб'яўляліся «ворагамі народа», і сем'і іх пазбаўляліся ўсялякай надзеі і падтрымкі.

Хутчэй за ўсё на першым плане былі эканамічныя меркаванні, а менавіта — выкарыстанне мільёнаў чалавечых рук на аднаўленне разбуранага, у шахтах, на розных прадпрыемствах, лесапавале і г. д. Другая група прычын — палітычныя. Будучы членам антыгітлераўскай кааліцыі дзяржаў, Савецкі Саюз стараўся захаваць сваё палітычнае рэнаме, дзе гэта было магчыма.

Сёння, калі набліжаецца 50-годдзе з часу заканчэння другой сусветнай вайны, часткай якой з'явілася Вялікая Айчынная, у памяць аб ваеннапалонных, аддаўшых нямала эканоміцы Расіі, засталіся толькі месцы іх пахаванняў. Хаця адразу ж пасля расфарміравання лагераў яны прыйшлі ў поўнае запусценне, затым гэтыя могілкі былі часткова разбураны або забудаваны. Тым не менш, на аснове захаваўшыхся ў архівах тапаграфічных схем НКУС, месцазнаходжанне гэтых могілак можна ўстанавіць дакладна. Зараз прыкладна 20—25 працэнтаў могілак ваеннапалонных на тэрыторыі Сібіры яшчэ можна аднавіць, або, у рэшце рэшт, абазначыць.

Без сумнення — гістарычная памяць не можа быць вузканацыянальнай, і ў свеце цяперашняй інтэграцыі Расіі ў сусветную садружнасць наўрад ці наша краіна зможа стаць дастойнай яго часткай, калі забудзе аб лёсах мільёнаў людзей, якія знайшлі вечны пакой на яе бяскрайніх прасторах.

Д. ФЁДАРЦАЎ.
(г. Новасібірск)

Канікулы! Фота М. БУДЧАНІНА.

ВАРТА ПРЫСЛУХАЦЦА

# Прачніся і спявай!

Цяжкае і напружанае наша жыццё — пастаянныя праблемы, хваляванні, рост цэн. Як жа трэба харчавацца і паводзіць сябе, каб зняць стрэс, не нажыць язвенную хваробу, неўроз, іншыя непрыемнасці?

Праз ежу чалавек атрымлівае амінакіслоты, якія бываюць замяняльныя і незамяняльныя. Адна з важнейшых з іх — трыптафан. Найбольшая яго колькасць (320 мг) утрымліваецца ў 100 грамах наступных прадуктаў: курыным мясе, курыных яйках і ялавічыне. З ежай трыптафан паступае ў кішэчнік і мозг. У кішэчніку ён пераўтвараецца ў сератанін, ад якога залежыць вельмі многае. Чалавек, які атрымлівае з ежай мала трыптафана (папярэдніка сератаніна), становіцца раздражняльным, яго недахоп уплывае на важнейшыя функцыі арганізма, бо сератанін вызначае палавую і дзетародную функцыі, а таксама біярытмы і водна-салявы абмен, асабліва абмен кальцыя і магнія, ад чаго, у сваю чаргу, залежыць узбуджальнасць клетак.

Гэты цудоўны сератанін выпрацоўваецца ўдзень. А ноччу, альбо ў цемры, ён ператвараецца ў меланін, магутны седатыўны сродак. Адсюль просты вывад: трэба спаць хаця б 7—8 гадзін у суткі. Вельмі карысна спаць удзень альбо хаця б паляжаць з заплюшчанымі вачыма. У таго, хто адпачывае ўдзень, звычайна не бывае язвеннай хваробы, гіпертаніі і многіх іншых захворванняў.

Меланін успрымае рытмічныя гукі і перапрацоўвае іх у новы від энергіі. Нездарма яшчэ першабытныя людзі стукалі ў там-там, чыталі малітвы з рытмічным раскачваннем цела і г.д. Для сучаснага чалавека рытм і музыка — сродак барацьбы са стрэсам. Ёсць цэлы накірунак — музыкатэрапія.

Цяпер пагаворым аб другім сродку, здольным зняць стрэс. Не здзіўляйцеся, што гаворка пойдзе аб этаноле, г.зн. алкаголю. Усе людзі сінтэзіруюць уласны этанол. У выніку складаных біяхімічных рэакцый ён пераўтвараецца ў трыанін, які супакойвае, здымае стрэс, абараняе арганізм ад перагрузак. Пры стрэсе і холадзе ў арганізме зніжаецца ўласны этанол. А паступленне алкаголю звонку добра здымае рэактыўнасць арганізма: 50 грамаў у выпадку стрэсу і холаду вельмі карысныя. Галоўнае — не перабольшыць.

Вялікі стрэс — голад. Калі чалавек сапраўды галадаў, ён памятае аб гэтым усё жыццё. Лячэбнае ж галаданне павінна назначацца толькі пры асобных паказаннях (напрыклад, пры вострым панкрэатыце і г.д.) і абавязкова пад урачэбным наглядам. Гэта не панацэя, акрамя таго, галаданне многім катэгарычна забаронена.

Іншая справа — дыета, але і яна павінна быць падабрана разумна. Калі хтосьці хоча пахудзець, неабходна памятаць, што харчавацца трэба дробна і часта, невялікімі порцыямі, каб не было адчування голаду. Апошні раз рэкамендуецца вячэраць не пазней 19 гадзін, бо да гэтага часу ў большасці людзей працэсы расшчаплення зніжаюцца. Лепш не даесці, але харчавацца своечасова, у пэўныя гадзіны, не менш 3—4 разоў, а лепш за ўсё 5—6 разоў на дзень.

Мяса есці, канешне, лепш за ўсё свежае, з зелянінай. Адзначу таксама, што сярод вегетарыянцаў практычна няма геніяў...

Яшчэ некалькі парад. Жанчынам не трэба забываць пра цырульню і касметычны кабінет, ды і мужчынам таксама. Новая прычоска, усведамленне сваёй прывабнасці вельмі дапамагаюць перамагчы стрэс, паўней адчуць перакананасць у сваіх сілах. Старайцеся задаволіць свае жаданні. Калі вам вельмі хочацца купіць якуюнебудзь рэч, лепш пазычце грошай і купіце. Калі вы будзеце яе насіць, настрой будзе паляпшацца і для стрэса вы будзеце маладасягальныя.

Паважаныя мужчыны! Не забывайцеся рабіць жанчынам кампліменты, аказваць знакі ўвагі. Гэта так дапамагае ім у жыцці!

Акрамя таго, стрэс цудоўна здымаецца пераключэннем душэўных хістанняў на фізічную актыўнасць. Замест таго, каб заломліваць рукі, трэба схапіць, напрыклад, анучу і вымыць усю падлогу ў кватэры, а мужчынам добра пацягаць, напрыклад, сумкі з прадуктамі, пакалоць дровы, пераставіць мэблю ў кватэры.

Раней добра дапамагаў такі сродак — схапіць шклянку і ўшчэнт разбіць яе аб сценку, і пакуль збіраеце асколкі, стрэс здымае як рукой. Зараз з гэтым цяжэй. Магчымы стрэс ад таго, што разбілі апошнюю шклянку.

Яшчэ некалькі практычных парад, як пазбавіцца ад стрэсу:

— зацямніць пакой;

— уключыць рытмічную музыку;

— выпіць 50 грамаў алкаголю;

— закусіць толькі курыцай, ялавічынай альбо яешняй мінімум з 3 яек; затым выспацца, разумеючы, што для любых цяжкіх дум павінен быць перарыў, каб вытрымаць іх зноў на другі дзень.

Акрамя гэтага трэба... пець. Спевы вельмі добра здымаюць стрэс. Не трымайце гора ў сабе — раскажыце аб ім сваякам, сябрам, знаёмым. Абавязкова займайцеся фізкультурай і спортам. Старайцеся пераключыцца на што-небудзь прыемнае і памятаць аб тым, што час лечыць, што камусьці яшчэ цяжэй, чым вам і ён не адчайваецца.

Але самае галоўнае — трэба яскрава ўявіць, што жыццё адно, кожны дзень непаўторны, і павярнуць час назад нельга. Таму трэба максімальна, у любых умовах радавацца жыццю, умець расслабляцца і ўсведамляць, што жыццё ваша і настрой належаць не вам адным, а нам усім.

Н. ПАЛАСУХІНА,
урач.

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# УЗДА:
## АБВЯРЖЭННЕ ЛЕГЕНДЫ

У «Навінах АНБ» № 19 ад 20 мая г.г. з цікавасцю прачытаў артыкул кандыдата філалагічных навук А. Рогалева пра паходжанне наймення Узда. Пры маёй глыбокай павазе да аўтара артыкула ўсё ж не магу з ім пагадзіцца, паколькі прыведзеная ім версія недастаткова перакануўчая. Пра гэта сам аўтар кажа: «гэтыя імёны — Ус, Уса, Узда... застануцца загадкавымі назаўсёды...»

Хачу прапанаваць увазе чытачоў «Навін» некалькі іншую версію паходжання тапоніма Узда (Уздзянка — рака), што ў «далёкім мінулым, безумоўна, мела сваё канкрэтнае значэнне».

Этымалагічныя карані наймення трэба шукаць у мовах тых народаў, якія здаўна ў выніку набегаў, войнаў і іншых сацыяльна-палітычных узрушэнняў пакідалі наседжаныя месцы, прыходзілі ў рух і сяліліся тут, на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Ім, паўтаруся, і абавязаны сваімі найменнямі многія геаграфічныя аб'екты.

Некаторыя прыклады. Прыблізна ў 35 км на паўночны захад ад Узды працякае рака Сула, назва якой нясе прыкметы цюркскага паходжання (Су — па-татарску «вада»). У басейне Сулы і ў цяперашні час жывуць нашчадкі тых татараў, якія поўнасцю страцілі сваю мову і поўнасцю асімілявалі. Адзначым сувязь: рэкі з такім найменнем ёсць і на Каўказе, і Украіне (прыток Дняпра). Па аднайменных рэках, як па вехах, можна прасачыць перамяшчэнне народаў.

Ці ўзяць Койданава (былое найменне Дзяржынска, што ў 25 км ад Узды). Доказы татарскага або мангола-татарскага паходжання старога імя горада неаднойчы былі апублікаваны. Менш вядомая вёска Чаркасы не вельмі далёка на поўнач ад Узды. Найменне таксама знамянальнае. Чаркасамі, чаркесамі нашы продкі звалі выхадцаў з Каўказа.

Такім чынам, можна зрабіць першую выснову пра тое, што ў тутэйшых месцах, вакол Узды сяліліся каўказцы.

Разумею, што прыведзеных фактаў малавата для катэгарычных сцвярджэнняў. Таму нагадваю пра гістарычныя падзеі канца 1-га тысячагоддзя ў міжрэччы Волгі і Кубані, на радзіме хазараў.

Вядома, што пасля разгрому хазарскага каганата князем Святаславам гузы зусім, пэўна, бесперашкодна на працягу колькіх гадоў рабавалі і спусташалі безабаронныя землі хазараў (гл. кнігу С. А. Плятнёва «Хазары», выд. 1976 г., стар. 70).

У тым жа X стагоддзі сынам Святаслава Уладзімірам «усходнія гарады Хазарыі былі знішчаны, славутыя сады і вінаграднікі Семендэра спалены, Ітыль (сталіца хазараў на Волзе — В. Г.) ператворана ў дымныя руіны». Магутнейшая ў мінулым хазарская дзяржава спыніла сваё існаванне. Некалі грозныя і гордыя («быше бо абъре телом велици і умом горди» — гл. «Повесть временных лет») хазары сталі бежанцамі, ізгоямі.

Кіруючыся на паўночны захад, яны перайшлі на левы бераг Прыпяці і аселі ў Беларусі. Зыход хазараў (абраў) зафіксаваны ў Кіеўскім летапісу.

Так званыя кабары (або обры), у тым ліку і авары (аварцы) аблюбавалі для жыцця цяперашнія Брэсцкую і Гродзенскую вобласці, аб чым сведчаць мясцовыя тапонімы: Кобрын, Вулька Абраўская, Обрына, Обрава і г. д.

У аварскай мове слова «уздзен» азначае «даліна», г. зн. канкрэтны адрасны знак. Мястэчка Узда сапраўды знаходзіцца ў даліне ракі, што прыйшлася даспадобы хазарам.

Дарэчы, амаль такое ж слова «уздзень» аварцамі і сёння вымаўляецца з шанаваннем. І тут мы падыходзім да другога варыянту тлумачэння, які зноў жа знітаваны з Паўночным Каўказам.

У Дагестане ў феадальны перыяд, як і да пачатку XX стагоддзя, уздзенямі звалася мясцовае дваранства, г. зн. зусім канкрэтная сацыяльная група насельніцтва. У Пензе і сёння ўбачыш у краязнаўчым музеі партрэт смуглявага мужчыны, які аўтарам названы гэтак: «Уздзень — высакародны чаркес». Калі выказаць меркаванне, што ў блізкіх і далёкіх наваколлях Узды пасялілася адно з адгалінаванняў паўночна-каўказскай сям'і народаў, а менавіта чаркесы, якія іменавалі сябе ўздзенямі, падкрэсліваючы сваю значнасць, дык вялікай нацяжкі ў гэтым не будзе. Цалкам верагодна, што на рубяжы I і II тысячагоддзяў жыхароў Узды клікалі ў адрозненне ад простых чаркесаў «уздзені», што па значэнню супастаўна з баярамі.

Такім чынам, напрошваюцца наступныя высновы. Прышлыя іншародцы, выхадцы з Паўночнага Каўказа ў першых пакаленнях прыўносілі ва ўжытак тутэйшага насельніцтва элементы сваёй мовы, накшталт «уздзеняў». Потым гэтыя народы — авары, чаркесы, обры, найменаваныя ўвогуле як хазары,— асімілявалі, страцілі ўрэшце родную мову. Змешаныя шлюбы паскорылі працэс асіміляцыі. Паняцці «уздзен» (даліна) ці «уздзень» (высакародны чаркес) у славянскім асяроддзі страцілі першапачатковы сэнс і трансфарміраваліся ў больш зручную для вымаўлення Узду.

Можна заключыць, што тапонімы Узда, Уздзянка носяць рысы мовы народа, які ў сівой старадаўнасці выйшаў з тэрыторыі сённяшняга Дагестана і сведчаць пра векавыя сувязі беларусаў з Каўказам.

А наіўная легенда пра этымалагічныя карані Узды ў казачнай быццам бы згубленай аброці (уздзечке) не мае пад сабой падстаў.

В. ГУТОЎСКІ,
інжынер.

# «Жывыя» сокі супраць рака

Першыя ўспаміны аб раку, як прычыне смерці, адносяцца да 1629 года. Аднак на фоне шматлікіх эпідэмій інфекцыйных хвароб рак доўгі час лічыўся рэдкім захворваннем.

Развіццё цывілізацыі ў корні змяніла карціну. Адбыўся рэзкі скачок росту анкалагічных захворванняў. Чаму? Даныя міжнароднага агенцтва па вывучэнню рака паказваюць асноўнымі фактарамі экалогію і характар харчавання.

За апошнія 100 гадоў чалавецтва стварыла для пражывання катастрафічна неспрыяльнае экалагічнае асяроддзе, што звязана з бурным развіццём хіміі і атамнай энергетыкі. Пастаяннае радыяцыйна-хімічнае ўздзеянне на арганізм чалавека паступова зніжае яго абарончыя ўласцівасці і прыводзіць да развіцця многіх хвароб, у тым ліку і рака.

Другой прычынай росту пухлінных паталогій з'яўляецца змяненне характару харчавання. Харчаванне свежай ежай альбо той, што захоўваецца ў натуральных умовах (квашэнне, саленне ў дубовых бочках і г.д.), змянілася прадуктамі складанага тэхналагічнага працэсу кансервавання, які заснаваны альбо на грубай тэрмічнай апрацоўцы, альбо з прымяненнем моцных кансервантаў, якія забіваюць у прадуктах усё «жывое». Дубовыя бочкі замянілі прыгожымі, але хімічнымі ўпакоўкамі. Усё гэта шкодзіць карыснасці і каштоўнасці прадуктаў харчавання. Усё менш застаецца на нашых сталах сырой раслінная ежы, асабліва ў зімова-веснавы перыяд. Пераважаюць вараныя, смажаныя, занадта каларыйныя і кансерваваныя прадукты, якія выкарыстоўваюцца арганізмам толькі як «біяпаліва». Такое харчаванне, з улікам шкодных экалагічных фактараў, прыводзіць да хуткага накаплення шлакаў у арганізме, сур'ёзных парушэнняў у абмене рэчываў, зніжэнню імунітэта, датэрміновай старасці. Пры адсутнасці альбо недахопе ў харчаванні будаўнічага матэрыялу, «жывых» атамаў (утрымліваецца толькі ў сырой расліннай ежы і садзейнічаюць аднаўленню і абнаўленню клетак і тканак), «галодныя» клеткі арганізма робяцца неарганізаванымі, губляюць здольнасць функцыяніраваць, а пры працяглым эмацыянальным напружанні адбываецца іх бескантрольны падзел (пухлінная трансфармацыя).

Як абараніць сябе ад гэтай страшнай хваробы? Як яе перамагчы і не пакінуць наступным пакаленням? Увесь свет задае сабе гэтыя пытанні і шукае на іх адказ. Перш за ўсё трэба вырашыць праблемы экалогіі і харчавання. Калі хутка змяніць экалагічную абстаноўку немагчыма, то абараняць сябе правільным харчаваннем — цалкам у нашых сілах.

«Жывыя» сокі — гэта найлепшыя лекі пры лячэнні рака і найлепшы сродак прафілактыкі анкалагічных захворванняў. Ніякія вітаміны, што прадаюцца ў аптэках, не заменяць натуральных вітамінаў «жывых» сокаў, а часта яны да таго ж выклікаюць негатыўныя пабочныя эфекты. Заснавальнікі вучэння аб карысці «жывых» сокаў Уокер і Шонenберг паказалі, што ў людзей, якія памяркоўныя ў ежы, з абавязковым ужываннем свежых раслінных прадуктаў і асабліва «жывых» сокаў,— ракавыя захворванні не развіваюцца.

С. БЯСТУЖАВА.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»
Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля Шымановіч

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 6.07.94 г.
Зак. 1037.
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.